*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# Наша слова




№ 10 • СНЕЖАНЬ • 1990 Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## У НУМАРЫ:



# 640 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ ВЯЛІКАМУ



# З НОВЫМ ЧАСАМ!

Калі ўчорашні дзень мінуўся ў рабстве, а заўтрашні палохае неспадзеўкаю, дык няўрокам абуджаецца жаданне адшукаць самога сябе, адказаўшы на няпростыя пытанні: хто я? дзе маё карэнне? навошта я прыйшоў на гэты свет? Няўпыннасць часу нараджае акалічнасць, якая ўвасобілася ў нашых душах праз боязь зменаў і праз прагу да навацыі. Гэта — два супрацьлежныя дамешкі аднога пачуцця. Пачуццё маральнае адказнасці за сваю сучаснасць. З ім Беларусы ў гэтым годзе ішлі на мітынгі супраць рэтраградаў, сачылі за барацьбою ў парламенце Рэспублікі, баранілі Беларушчыну ад бюракратаў ды партакратаў. З ім апынуліся на згоне 1990 году, з ім пераступаюць мяжу новага 1991-га.

У гэтым годзе былі ў нас хвіліны, калі мы пачуваліся за людзей. Улады ўрэшце далі нам чаканую Дэкларацыю пра суверэнітэт, «узаконілі» Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, адчынілі трохі беларускіх дзіцячых садкоў і школ. Гэты год быў годам Францішка Скарыны, і яго адзначаў разам з намі ўвесь свет. А на самай справе гэта было штосьці яшчэ больш велічнае. Проста трыста шэсцьдзесят пяць дзён таму назад хадзіў на Беларусі досціп:ператворым год белага каня ў год белае Пагоні! Пажаданне спраўдзілася. Мы пачалі жыць пад Пагоняй.

А далей што? Наша будучыня залежыць ад таго, як мы сёння паставімся самі да сябе. Зрэшты, кажуць, недзе на Зямлі жыве ці то астролаг, ці то паэт, які сцвярджае, што над Беларуссю узыходзіць шчаслівая зорка. Давайце будзем верыць у гэты цуд, набліжаючы пачэснымі справамі адраджэнне Бацькаўшчыны.

Рэдакцыя «Нашага слова» шчыра віншуе ўсіх чытачоў з надыходам 1991 году, а таксама з Калядамі. Моцнага вам здароўя, доўгага жыцця і шчасця!

## Дружына

Ініцыятыўная група пры дапамозе фізкультурна-спартыўнага Клубу А. Мядзведзя і гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, фалькларыстаў АН БССР стварылі ў Менску Дружыну.

У адрозненні ад дружынніка ў сучасным уяўленні, кожны сябра гэтага аб'яднання будзе «ўзброены» не чырвонай павязкаю, а... мячом і шчытам. Незвычайнаю будзе і вопратка — кальчуга, панцыр, шалом. Сёння ўдзельнікі Дружыны не толькі майструюць сабе вайсковы рыштунак ды стараюцца авалодаць сакрэтамі старадаўняга рыцырскага бою. Яны вывучаюць абрады, паданні, песні — усё звязанае з мінуўшчынаю Беларусі. Дружына мае Князя, ваяводу, купца. У будучым плануецца стварыць рамесныя майстэрні, каб аднавіць ткацтва, кавальства, ганчарную справу.

Паўліна ТКАЧОВА,
г. Менск.

## *Беларусізацыя ў раёне*

На чарговай сесіі Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў разгледжанае пытанне «Пра задачы народных дэпутатаў раёна па адраджэнні нацыянальнае культуры, мовы і традыцыяў беларускага народу». Была прынятая пастанова, а таксама вызначана праграма дзейнасці. Выканкаму райсавета і сельскім Саветам даручана ўжыць захады па здзяйсненню праграмы.

На сесіі прысутнічаў сябра Рэспубліканскай Рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францішча Скарыны, дэпутат абласнога Савета народных дэпутатаў спадар Алесь Белакоз, якому ў часе паседжання быў уручаны юбілейны Скарынаўскі медаль.

Алег РУДАБЕЛЕЦ,
дэпутат Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў.

## Вечарына Францішка Скарыны

У снежні ў літаратурнай гасцёўні Глускай санаторна-лясной школкі прайшла вечарына, якая была прысвечана славутаму сыну Беларускай зямлі Францішку Скарыну. Бібліятэкаркі Ала Грабко і Святлана Сіняк расказалі пра вучнёўскія і студэнцкія гады Францішка, пазнаёмілі школьнікаў з новымі кніжкамі беларускіх літаратараў. Свае вершы прачытаў старшыня літаб'яднання «Пціч» Васіль Лаўрыновіч.

Таццяна ЛУБКОВА,
сябра літаб'яднання «Пціч», вучаніца 11 класа СШ № 1.

## Паседжанне ў Віцебску

На чарговым паседжанні Віцебскай гарадской рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны старшыня рады У. Папковіч выступіў з крытыкай стаўлення партыйнага кіраўніцтва вобласці да адраджэння беларускай мовы і культуры. Бальшынёю прысутных ухвалена прапазіцыя падтрымаць ідэю пабудовы помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў. Таксама абмеркавана пытанне, звязанае з адкрыццём культурна-асветніцкага універсітэта ў абласным цэнтры.

На пасяджэнні прысутнічалі госці: кіраўнікі клубу «За дэмакратычныя выбары» ў Віцебскай філіі БНФ «Адраджэньне», прадстаўнікі народнай адукацыі, таварыства «Веды», грамадска-палітычнага цэнтру, краязнаўчага музею, абкаму КПБ, журналісты.

Юрась СЦЯПАНАЎ,
сакратар Віцебскай гарадской Рады ТБМ імя Францішча Скарыны.

## Падручнікі атрымалі

Ад імя Прыазёрскай гарадской рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны Джазказганскай вобласці Казахскай ССР выказваю шчырую падзяку Рэспубліканскай Радзе ТБМ за дасланыя падручнікі і мастацкую літаратуру. Паведамляю, што яшчэ частку падручнікаў даслала Рэспубліканская навукова-педагагічная бібліятэка на Беларусі, і нашая школка забяспечана амаль цалкам усім неабходным.

Дасылаю здымкі зробленыя ў часе заняткаў. На жаль, гэтага дня не з'явілася палова дзетак. Пачаліся хваробы. А звычайна прыходзіць да пятнаццаці чалавек. На наступны год рыхтуем набор першакласнікаў, яшчэ пяць дзетак. Зараз заняткі ідуць у двух групах, а ў наступным годзе давядзецца ствараць яшчэ адну групу.

Беларускае зямляцтва горада Цвер вырашыла адкрыць нядзельную беларускую школу. Заняткі пачнуцца там у лютым 1992 года.

Ідзе работа над № 3 газеты «Рокаш».

Станіслаў СУДНІК,
старшыня Прыазёрскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

На здымку: беларускія дзеткі з Прыазёрску на ўроку роднай літаратуры. Фота Максіма Судніка.

АД РЭДАКЦЫІ. Беларускія кніжкі для дзетак у Прыазёрску можна дасляць па адрасе: 422200, КазССР, Джезказганская обл., г. Приозёрск, ул. Панфилова, 3-29, Суднику С. В.



# ФОРУМ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

***На пачатку снежня ў Менску адбыўся рэспубліканскі форум «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі».***

***У форуме бралі ўдзел дэлегаты ад творчых саюзаў, грамадскіх устаноў і арганізацый, народныя дэпутаты БССР, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў.***

## ЗВАРОТ

### да народных дэпутатаў і ўсіх грамадзян Беларусі

Мы, удзельнікі рэспубліканскага форуму «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі», выказваем боль, трывогу і занепакоенасць тым, што ў рэспубліцы ўсё больш абвастраецца эканамічны, сацыяльны і палітычны крызіс у грамадстве. Далейшае паглыбленне яго можа прывесці да нацыянальна-культурнай і экалагічнай катастрофы, да поўнага разбурэння грамадства, і адказнасць за гэта ляжа перш за ўсё на вышэйшы орган улады БССР — Вярхоўны Савет і прызначаны ім урад рэспублікі.

Як ні горка аб гэтым думаць, але менавіта дзяржава ў асобе органаў вышэйшай улады і кіравання рэспублікі служыла інструментам антыбеларускай палітыкі кіруючай партыі і падаўляла беларускую нацыянальную культуру і мову. У гэтых умовах, зыходзячы з прынятай Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, заклікаем народных дэпутатаў усіх узроўняў, грамадзян рэспублікі ўсвядоміць, што без прыярытэтнага развіцця культуры, навукі, нацыянальнай школы, а таксама без адраджэння беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця немагчыма існаванне цывілізаванага грамадства, немагчыма аднавіць і перабудаваць эканоміку і падняць дабрабыт народа, дабіцца сацыяльнай абароненасці чалавека, адрадзіць нацыянальную духоўнасць.

Беларуская ССР павінна стаць гарантам захавання і развіцця беларускай культуры і стварыць неабходную дзеля жыццядзейнасці матэрыяльную аснову, асігнуючы на гэтыя мэты неабходную долю сваіх бюджэтных сродкаў. Культуру, якая прыносіць неацэнную карысць грамадству апасродкавана, праз удасканальванне ўсіх формаў чалавечай дзейнасці, нельга пераводзіць на фінансавае самазабеспячэнне, абкладаць падаткам. Мы заклікаем народных дэпутатаў БССР і Савета ўсіх узроўняў, усіх грамадзян рэспублікі ўключыцца ў рух за адраджэнне беларускай культуры і мовы, сплаціўшы ім доўг, сцвердзіўшы на справе ў палажэннях законаў аб дзяржаўным бюджэце БССР, аб падатках, а таксама ў асновах заканадаўства аб культуры прынцып прыярытэтнага развіцця беларускай мовы і культуры ў Беларускай дзяржаве.

Разам з тым, выказваем заклапочанасць і абурэнне тым, што Закон аб мовах у Беларускай ССР у многіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі не выконваецца, больш таго, шэрагам дзяржаўных органаў, устаноў, прадпрыемстваў, а таксама некаторымі грамадскімі арганізацыямі свядома ігнаруецца. Прычынай таму з'яўляецца нацыянальна-культурны нігілізм, які пусціў глыбокія карані ў свядомасці значнай часткі грамадзян Беларусі, негатыўна адбіваючыся на грамадска-культурных працэсах, і які служыць адным з ганебных сродкаў разбурэння грамадскай супольнасці ў дзейнасці пэўных палітычных сіл.

У гэтай сувязі мы лічым, што нігілістычныя адносіны або варожасць да беларускай культуры, аднолькава як да культуры кожнай з нацыянальных супольнасцяў Беларусі, падлягаюць рашучаму асуджэнню з боку Беларускай ССР і не павінны мець месца ў палітычнай, культурна-асветнай, канфесійнай або іншай дзейнасці на тэрыторыі рэспублікі.

Культурная дзейнасць, якая ўяўляе сабою неад'емную частку дзейнасці па адраджэнні і ўмацаванні нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР, можа і павінна стаць надзейным стабілізуючым і кансалідуючым фактарам у жыцці беларускага народа і ўсіх нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, а таксама ў дзейнасці палітычных сіл грамадства.

1. снежня 1990 г., г. Мінск.

# ПРЫКЛАД ПАВІННА ДАЦЬ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

(З выступлення на рэспубліканскім форуме «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту рэспублікі»)

Мы сабраліся ў час настолькі трывожны, настолькі складаны і адказны, калі ўсякае эгаістычна-бяздумнае самапачуванне раўназначна злачынству. Час, калі склаўшы рукі сядзець і маўчаць нельга. Час, калі трэба дзейнічаць і дзейнічаць. Але толькі пытанне — як? Як будзем дзейнічаць? Як людзі культуры і цывілізацыі, ці — як у самыя цёмныя часы нашай гісторыі? Навукоўцам, педагогам, літаратарам, мастакам, дзеячам культуры Беларусі належыць вытрымаць экзамен на грамадзянскую сталасць, на годнасць інтэлігента. У сённяшніх умовах справіцца з гэтай задачай неймаверна цяжка, асабліва — калі не адчуваць, што ты не адзінокі, што побач з табою калегі і таварышы, якія таксама праймаюцца гэтым клопатам, хаця і не ўсе яны тваё аднадумцы і не ўсе тваё адзінаверцы.

Зрэшты, вытрымаць гэты экзамен на сталасць належыць не толькі інтэлігенцыі, але і ўсяму грамадству, якое або знойдзе сілы супыніцца на краі бездані, або не справіцца з напорам нядобрых сляпых пачуццяў, самавыбухне і абрынецца ў тартарары. Хто дапаможа грамадству апомніцца, задумацца і схамянуцца? Думаю — перш за ўсё інтэлігенцыя, як гэта было і заўсёды.

У Беларусі, як і па ўсёй

*(Працяг на 4-й стар.).*

# 640 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ ВЯЛІКАМУ

*Мікола ЕРМАЛОВІЧ*

## ВІТАЎТ

Вітаўт (1350—27.10. 1430), князь гарадзенскі, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1392—1430), сын Кейстута. Належыць да ліку самых выдатных дзяржаўных дзеячоў Вялікага княства Літоўскага. Рэзкія павароты ў палітыцы Вітаўта былі вынікам тых складаных знешніх і ўнутраных абставін, у якіх апынулася Вялікае княства Літоўскае ў гэты час. Нямецкая агрэсія, дыпламатычны націск Польшчы на аб'яднанне з ёю і пагроза з боку Маскоўскага княства, што ўсё больш пашыраючыся і дужэючы, стала прад'яўляць прэтэнзіі на беларускія і ўкраінскія землі, якія яно лічыла сваімі, але не законна адабранымі ад яго. Вядома, Вітаўту прыходзілася ўмела і асцярожна лавіраваць паміж гэтымі небяспекамі, рабіць сваіх учарашніх ворагаў саюзнікамі. Вітаўт вызначаўся выдатным палітычным тактам, што дазваляла яму ў пераважнай большасці выпадкаў выбіраць патрэбны момант для задавальнення як дзяржаўных інтарэсаў, так і асабістых амбіцыйных намераў. Пра ўсё гэта добра сведчыць дзяржаўны вопыт Вітаўта.

Актыўная палітычная дзейнасць Вітаўта пачалася ў 1382 годзе пасля забойства яго бацькі Кейстута па загадзе Ягайлы. Каб помсціць апошняму, уцякае да крыжакоў, заключае з імі саюз, паводле якога ён прыняў каталіцтва, абавязаўся быць васалам Ордэна і нават аддаваў яму Жамойцію. Аднак пачаўшы барацьбу з Ягайлам, ён упэўніўся ў яе бесперспектыўнасці і павінен быў згадзіцца на мір. Атрымаўшы ад Ягайлы Бярэсце і Гародню, праваслаўнае насельніцтва ў якіх складала галоўную масу, Вітаўт пераходзіць з каталіцтва ў праваслаўе. Але ў час заключэння Крэўскай уніі ў 1385 годзе Вітаўт з Ягайлам і іншымі князямі зноў прымае каталіцтва. Аднак у 1388 годзе, убачыўшы варожасць шырокіх колаў грамадства да Крэўскай уніі, якая фактычна закрэслівала самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, а таксама асабіста незадаволены тым, што Ягайла, будучы польскім каралём, паставіў сваім намеснікам у Вялікім княстве Літоўскім не яго, а Скіргайлу, зноў пачаў барацьбу з Ягайлам. Для гэтага ён уступіў у саюз з маскоўскім князем Васіліем І, за якога аддае сваю дачку Соф'ю, а таксама з Ордэнам, якому зноў паабяцаў Жамойцію. Упартая і жорсткая барацьба Вітаўта, што цягнулася два гады, закончылася для яго паспяхова: Ягайла вымушаны быў у выніку Востраўскай згоды 1392 году прызнаць яго за вялікага князя, а разам з гэтым і Вялікае княства Літоўскае атрымлівала самастойнасць, якую яно траціла пасля Крэўскай уніі. Але ў скорым часе супроць улады Вітаўта паўсталі князі Дзімітрый Северскі, Фёдар Карыятавіч Падольскі і Свідрыгайла Альгердавіч Віцебскі. Аднак яны былі пераадолены Вітаўтам з польскай дапамогай, узяты ў палон і пазбаўлены сваіх княстваў, што з'яўлялася моцным ударам па ўдзельнай сістэме і садзейнічала ўнутранаму ўмацаванню дзяржавы.

Як і Альгерд, Вітаўт таксама працягваў далей ранейшую полацкую палітыку ў адносінах Смаленска, Пскова і Ноўгарада. Асабліва паспяховай была яна ў адносінах першага. Выкарыстаўшы міжусобіцу смаленскіх князёў, Вітаўт у 1395 годзе завалодвае гэтым горадам і падначальвае яго сваёй уладзе, пакінуўшы ў ім сваіх намеснікаў. У 1398 годзе Вітаўт дамагаецца прызнання сваёй улады шляхам застрашвання заваёвай Ноўгарада, які ў гэты час быў у цяжкім становішчы. Усё гэта з'ўлялася нічым іншым як паспяховым завяршэннем шматвяковай барацьбы Полацка за валоданне названымі гарадамі і іх землямі. Аднак гэтая ўлада патрабавала далейшага ўмацавання, што і паказалі наступныя падзеі.

У 1399 годзе Вітаўт вырашыў дапамагчы бегламу татарскаму хану Тахтамышу ў яго барацьбе за ханскі пасад і павёў свае войскі на р. Ворсклу (на Украіне), дзе і пацярпеў цяжкое паражэнне. Аслабленне адразу ж сталі выкарыстоўваць Смаленск і Ноўгарад і ўзбунтаваліся супроць улады Вітаўта. Але калі апошняму з дапамогай палякаў удалося ўціхамірыць і падначаліць сабе Смаленск у 1404 годзе, то Ноўгарад, падтрыманы Масквой, застаўся па-за ўладаю Вітаўта. Праўда, гэта не адхіліла яго ад далейшай барацьбы. Яшчэ незадоўга да сваёй смерці ў 1428 годзе Вітаўт хадзіў на Ноўгарад. І што ў гэтым найперш быў зацікаўлены Полацак, сведчыць тое, што ў тым паходзе ўдзельнічаў і загінуў полацкі ваявода. Змаганне за Ноўгарад прывяло Вітаўта да вайны з Масквою, якая сама імкнулася падначаліць сабе гэты горад.

Тры разы хадзіў Вітаўт супроць Масквы, апошні раз у 1408 годзе, калі ён сустрэўся з маскоўскім войскам на р. Угры (прыток Акі). Не ўступаючы ў бой, Вітаўт і маскоўскі князь Васілій (яго зяць) рашылі заключыць мір і правесці мяжу паміж сваімі ўладаннямі па Угры, якая такім чынам стала крайнім усходнім рубяжом Вялікага княства Літоўскага ў час яго найбольшых памераў. Аднак гэта была не толькі палітычная, але і этнічная мяжа, паколькі яна супадае з мяжой пашырэння гаворак беларускае мовы. Яшчэ і зараз дыялектолагі адзначаюць, што насельніцтва на заходнім беразе Угры ў сваім маўленні ўжывае кароткае *ў* (характэрная прыкмета беларускае мовы), чаго не назіраецца ў людзей, якія жывуць на ўсход ад р. Угры.

Хоць Вітаўт неаднаразова ў змаганні з сваімі знешнімі і ўнутранымі ворагамі ўступаў у саюз з Ордэнам, аднак апошні па-ранейшаму быў для яго небяспечным ворагам, які часта нападаў на яго землі, у тым ліку ў 1393 годзе на Гародню, у 1394 годзе на Ліду і Навагарадак, а ў канцы 1395 году на Вільню. Гэткім жа небяспечным ворагам быў Ордэн і для Польшчы. І таму падрыхтоўка да паходу супроць рыцараў вялася ў шчыльнай сувязі з Ягайлам. Для Вітаўта галоўнымі мэтамі ў гэтым наступленні былі: вярнуць пад сваю ўладу Жамойцію і канчаткова разграміць Ордэн. І вось аб'яднаныя сілы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы сышліся з крыжацкім войскам каля прускай вёскі Грунвальд 15 ліпеня

*Заканчэнне на 6-й стар.*

# 640 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ ВЯЛІКАМУ

## ВІТАЎТ

*Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.*

1410 году. Галоўныя сілы крыжакоў былі накіраваны супроць Вітаўта, што прымусіла яго падацца назад. Становішча было выратавана беларускімі войскамі, якія дружным націскам спынілі напор крыжакоў і прымусілі іх адступіць, што і стала найбольш істотным момантам у ходзе бітвы. Паражэнне рыцараў было поўнае. У выніку гэтай перамогі Жамойція была вернута ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Польскія вярхі, убачыўшы непрыняцце шырокімі коламі насельніцтва Вялікага княства Літоўскага Крэўскай уніі, зразумелі, што падначаленне гэтай дзяржавы іх уладзе не можа быць аднаразовым актам і таму прыступілі да тактыкі паступовага яе падпарадкавання. І гэта выявілася ў перыядычным перазаключэнні уніі. Польшча заўсёды выкарыстоўвала цяжкія моманты ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Так, напрыклад, было пасля паражэння Вітаўта на Ворскле, калі на з'ездзе ў Вільні ў 1401 г. Вітаўт павінен быў падпісаць вельмі цяжкія ўмовы уніі, якая фактычна пазбаўляла яго дзяржаву самастойнасці ў карысць Польшчы. Хоць умовы Гарадзельскай уніі, заключанай у 1413 г. пасля Грунвальдскай бітвы, былі лягчэйшыя, аднак і яны былі нацэлены для падначалення Вялікага княства Літоўскага Польшчы. Паранейшаму абмяжоўвалася ў сваіх правах праваслаўнае насельніцтва ўсіх станаў. Толькі феадалы-католікі Вялікага княства Літоўскага мелі права ўдзельнічаць у выбарах караля, маглі быць выбранымі ў сейм, маглі займаць дзяржаўныя пасады і атрымліваць польскія гербы. Ігнараванне Вітаўтам інтарэсаў праваслаўных, якое навязвалася яму Польшчай, значна шкодзіла Вялікаму княству Літоўскаму, паколькі адштурхоўвала ад яго ўлады большую частку насельніцтва. Менавіта ў гэты час і пачаўся ад'езд з Вялікага княства Літоўскага праваслаўных князёў і феадалаў у маскоўскую дзяржаву як адзінаверную ім. З другога боку, іншыя феадалы, бачачы, што пераход у каталіцтва прынясе ім вялікія матэрыяльныя і маральныя перавагі і зраўняе іх у правах з польскай шляхтай, пачалі пераходзіць у каталіцтва, што ў далейшым прывяло іх да апалячвання і поўнага адыходу ад свайго народу. І ўсё ж Вітаўт разумеў усю важнасць становішча праваслаўнага насельніцтва для лёсу дзяржавы і рабіў самыя энергічныя захады ў гэтых адносінах.

Найперш ён бачыў неабходнасць зрабіць праваслаўную царкву сваёй дзяржавы самастойнай, дзеля чаго аддзяліў яе ад Маскоўскай метраполіі і ў 1416 годзе ўтварыў самастойную метраполію з цэнтрам у Навагародку. На чале яе быў пастаўлены мітрапаліт Грыгорый Цымблак. Больш за тое, менавіта Вітаўт першы падаў думку аб уніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у дзяржаве. Ён дзеля гэтага нават паслаў Цымблака на Канстанцкі сабор, дзе меркавалася ўзняць пытанне аб уз'яднанні праваслаўя і каталіцтва ў глабальным маштабе. Аднак Цымблак спазніўся на гэты сабор. У скорым часе ён памёр, а Вітаўт, які ў гэты час ішоў на збліжэнне з Масквой, не захацеў абвастраць з ёй адносіны і таму не назначыў пераемніка Цымблака. Так была пагублена вельмі важная ініцыятыва, здзяйсненне якой у той час магло б выратаваць наш народ ад няшчасця разладу ў ім.

Хоць Вітаўт у цэлым у сваёй знешняй і ўнутранай палітыцы арыентаваўся на саюз з Польшчай, аднак ён, адчуваючы незадаволенасць шырокіх колаў грамадства з прычыны ўсё большай падначаленасці інтарэсам Польшчы, не мог не імкнуцца да самастойнасці. А гэта перш за ўсё магло падкрэсліць атрыманне ім каралеўскага тытула і каралеўскай кароны, захады аб атрыманні якіх Вітаўт рабіў двойчы — у 1429 і 1430 гадах. Польскія вярхі былі вельмі ўстрывожаныя. Яны зрабілі ўсё, каб карона не дайшла да Вітаўта.

Як і ў ранейшыя часы, так і пры Вітаўту Вялікае княства Літоўскае найперш вызначалася як беларуская дзяржава. На гэта ўказвае тое, што ўсе вышэйшыя пасады ў ёй займалі выхадцы з Беларусі. З іх жа складалася і акружэнне Вітаўта. Так, на Салінскай сустрэчы з крыжацкім пасольствам Вітаўта суправаджалі князі Юрый Пінскі, Міхаіл Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Гальшанскі і Іван Друцкі. Нават у Жамойціі кіравалі беларускія баяры: напрыклад, на чале Коўны стаяў якісьці Іван Фёдаравіч, а камандаваў войскамі тут жа князь Юрый. Як сам Вітаўт, так і ўвесь яго двор, паводле сведчання крыжацкага пасла Кібурта, гаварылі толькі пабеларуску. На гэтай жа мове вялося і дзяржаўнае справаводства. Усё гэта яшчэ раз сведчыць, што, як казаў Максім Багдановіч, «дзяржаўнае жыццё Вялікага княства Літоўскага праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах».

*Адам СТАНКЕВІЧ*

## ВІТАЎТ ВЯЛІКІ І БЕЛАРУСЫ

**Чытачам «Нашага слова» прапануюцца фрагменты з рэферату, чытанага Адамам Станкевічам на ўрачыстай акадэміі ў Вільні 27.X.1930 г., у дзень 500-лецьця сьмерці Вітаўта, Вялікага Князя Літоўска-Беларускага.**

Сяньня мінула 500 гадоў, як расстаўся з гэтым сьветам і перайшоў на той бок быту вялікі валадар зямлі нашай Вітаўт, духу каторага складаем мы тут чэсьць нашу.

500 гадоў — між намі і Вітаўтам, між нашым часам і часам ягоным. Гадоў, як бачым, уплыло нямала, а памяць аб вялікім і слаўным Кейстутавічу жывая і сьвежая, думкі яго жывуць між намі, лунаюць над бяздольнай нашай старонкай, адухаўляюць нас, даюць нам натхненьне да працы, да барацьбы за волю і долю нашу, за вышэйшую справядлівасьць жыцьця народу ня толькі літоўскага, але і беларускага...

Вялікасьць Вітаўта перавышае звычайныя людзкія магчымасьці. «Што за шырыня горызонту,— слушна кажа аб Вітаўце польскі гісторык праф. Ф. Конэчны.— Ад стэпаў татарскіх да базылікі над возерам швайцарскім, ад бурштынавага пабярэжжа Балтыку, праз залатую Прагу, ад да копулаў Цараграду павядзе цябе досьлед ніці яго намераў і

*(Працяг на 7-й стар.).*

# 640 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ ВЯЛІКАМУ

## ВІТАЎТ ВЯЛІКІ І БЕЛАРУСЫ

*Пачатак на 6-й стар.*

чынаў. Пазнаеш адносіны нэофіткі Літвы да яе айцоў хросных, да Палякоў, таёмныя хістаньні Русі ў Галічу, у Кіеве, баявую лінію між Вільняй і Масквой. Пазнаеш справы Цэрквы і Касьцёла заходняга, уладыкаў і біскупаў, убачыш іх разам на саборы, як пажадаюць злучыцца ў ваднэй аўчарні, натхнёныя Вітаўтам, які вядзе і гусытаў. Лучыць і ўсьцяж лучыць — гэта мэта яго! Маскву з Вільняй, Прагу з Кракавам хацеў ён спрагчы ў вадно, палову Эўропы жадаў ён ажывіць адным духам, так, што з уніі польска-літоўскай мела б паўстаць нейкая адна ўсеславянская унія. Гэткага кругазору рэдка ўгледзіш у вадным чалавеку, бо-ж гэта вялізарны разьмерам, чароўны думкай — гістарычны эпос. Гэта ня плян палітычны з часіны прыпадковай, аблічаны на пэўны час і да пэўных абставін, але гістарычная ідэя, да выкананьня якой трэба вякі запрэгчы».

...Вітаўт усё даўгавечнае жыцьцё сваё пасьвяціў на абарону самастойнасьці літоўска-беларускай дзяржавы, ваюючы за яе падчас маладасьці сваей пры боку бацькі свайго Кейстута, ваюючы так-жа пасьля самастойна, як вялікі князь літоўска-беларускай дзяржавы, кіраваў якой аж 38 гадоў, будуючы адначасна жыцьцё ўнутранае дзяржавы ў кірунку консолідацыі і згоднага сужыцьця Літвіноў і Беларусаў, у кірунку ліквідацыі бунтарскіх настрояў розных князькоў і агулам ліквідацыі іх як раскладаючай сілы палітычнай, у кірунку пашырэньня хрысьціянства і культуры, у кірунку грамадзкага ладу і эканамічнага дастатку.

Так, вялікае княства літоўска-беларускае вырасла за Вітаўта ў вялікую і магутную дзяржаву, якая займала басэйны верхняй і сярэдняй Дзьвіны, Нёмана, Паўдзённага Бугу, Дняпра і верхняй Акі — што знача — Літву, Беларусь, бадай усю (без Галічыны) Украіну і нязначную часьць Маскоўшчыны — (усходнюю часьць Смаленшчыны, былую губ. Калускую, Тульскую, Арлоўскую),— якая такім чынам між Паўдзённым Бугам і Днестрам датыкала берагоў мора Чорнага, а каля Палонгі — мора Балтыцкага.

...Супольныя ворагі літоўска-беларускай дзяржавы і Польшчы — на захадзе нямецкія рыцары, а на ўсходзе Масква, а такжа розныя прычыны характару ўнутранага, змушалі гэтыя дзьве дзяржавы да бліжэйшага сужыцьця, да палітычнага і мілітарнага супрацоўніцтва, да рознага роду нават палітычных дагавораў.

Вось-жа на фоне гэтых супольных інтарэсаў зрадзілася з боку польскага самалюбная ідэя далучэньня літоўска-беларускай дзяржавы да Польшчы, ідэя, для якой у ахвяры злажыў на аўтары Літву і Беларусь Літвін вялікі князь Ягайла, а насупроць якой ідэі яшчэ больш зазначылася ідэя самастойнасьці гэтай дзяржавы, ідэя, для якой пасьвяціў свой геній Вялікі Вітаўт і за якую ўсё жыцьцё сваё ён змагаўся, як з ворагамі вонкавымі, так і з унутранымі, у тым ліку з сваім братам стрыечным Ягайлам.

...бяручы ў цэласьці думкі і чыны Вітаўта і Ягайлы, трэба сказаць, што дзяліла іх ня што іншае, як толькі дзьве розныя гістарычныя ідэолёгіі, дзьве розныя ідэі. Ідэя Вітаўта — гэта ідэя самабытнасьці Літвы і Беларусі ўласным коштам, ідэя Ягайлы — гэта ідэя самабытнасьці Польшчы коштам Літвы і Беларусі.

Адгэтуль ясным павінна быць, чаму ўсе гэныя уніі — дагаворы літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай: 1386, 1392, 1401, 1413 г., падпісаны за часаў Вітаўта, у жыцьці былі ня трывалыя і чаму сам Вітаўт, скарыстаўшы з іх для пэўнай патрэбы, пераходзіў над імі да парадку дзеннага. Гэта не вераломства. Гэта пачуцьцё генія вышэйшай справядлівасьці. Вітаўт лучыўся з Польшчай настолькі, наколькі гэтае злучэньне, будучы карысным на пэўны час, для пэўнай канкрэтнай палітычнай патрэбы, як вольны саюз,— не пярэчыла, ня ніштожыла самабытнасьці літоўска-беларускай дзяржавы. Гэтая самабытнасьць — гэта сьвятое сьвятых Вітаўта, для абароны якога ня было такой сілы, якая-б Вітаўта зьдзержыла. Зрабіўшы дзеля патрэбы дагавор, ці унію з Польшчай, Вітаўт тады заўсёды паступаў так, што паступкі яго ярка тлумачылі гэныя яго дагаворы, як суррогаты, а не як прынцыпы яго палітыкі.

І сапраўды. Пасьля уніі літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай 1386 г., калі прад Вітаўтам у ва ўсей гразе стала ідэя Ягайлы, ідэя інкорпорацыі — ён у ва ўсей красе і славе проціўставіў ей сваю ідэю, ідэю самабытнасьці нашага краю.

...ідэя Ягайлы вялікая ў вачох Палякоў і быць можа ў вачох нясьведамых нацыянальна, соцыяльна і палітычна Беларусаў і Літвіноў, памылкова ўважаючых сябе за Палякоў, але ў вачох сьведамых Беларусаў і Літвіноў, якіх апошнім часам усьцяж прыбывае, і якія самі аб сабе забіраюць ужо голас — пры гэтым новым фактары — ідэя Ягайлы ёсьць ідэяй звычайнага імпэр'ялізму, а ў найлепшым выпадку ідэяй анахронізму, ідэяй пазбаўленай у сабе тэй красы і чару, якія мае кожная вялікая ідэя, асьвечаная чыстай праўдай і прыроднай справядлівасьцяй.

...ідэолёгія Вітаўта гістарычнага шляху для яго народаў, а такжа ідэолёгія адносна суседніх народаў: палякоў і расейцаў — ідэолёгія сапраўднага генія. Здаецца нам, а думкі нашы пацьверджае гісторыя народаў агулам і гісторыя народаў Вялікага Княства Літоўскага ў асобнасьці, што шлях да самастойнасьці культурнай і палітычнай народаў на ўсходзе Эўропы, асабліва для Беларусаў, вядзе не праз усход, а праз захад. А Вітаўту якраз і ішло аб гістарычную дарогу для народаў яго дзяржавы і ён яе выбраў, а якой імя — дружная барацьба Беларусаў, Літвіноў і Украінцаў за сваю самабытнасьць з апорай на хрысьціянскую заходнюю культуру і цывілізацыю.

Урэшце, каб не здавалася Польшчы, што праз уніі і праз аднаверства Вітаўт аддае свае народы на асыміляцыю з Польшчай, каб было ясным і Маскве, што Літва і Беларусь — гэта ня «вотчына маскоўскіх гасудараў», а такжа, каб пакінуць сваім народам у тэстамэнце аснаўную ідэолёгію іх народнага быту — Вітаўт пад старасьць з нябывалай дагэтуль энэргіяй сьпяшыў каранаваць сябе на самастойнага фактычна і фармальна валадара літоўска-беларускага каралеўства. Зьдзейсьніць Вітаўту гэтай думкі не ўдалося. На перададні каранацыі і сьмерці Вітаўта Вялікага, як мы ўжо ўспаміналі, Ягайла зьдзёр карону з чала яго.

27 кастрычніка 1430 г. Вітаўта сярод жывых на зямлі нястала. Але ідэя яго аб самастойнасьці літоўска-беларускай дзяржавы аставалася жыць у далейшых пакаленьнях літоўскага і беларускага народу, асабліва за часаў Ягельлёнаў, патомкаў Ягайлы. Пад націскам небясьпекі Масквы і пад дамаганьнем Польшчы, выкарыстываючай варункі, Літва і Беларусь падпісавалі яшчэ шмат разоў уніі з Польшчай, але ідэя Вітаўта Вялікага адкідала іх. І так справа уніі Вя-

*(Працяг на 10-й стар.).*

# 640 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ ВЯЛІКАМУ

Мікола АРОЧКА

## МАНАЛОГ ВІТАЎТА

Крэва, 1385.
(З драматычнай паэмы «Крэва»)

Куды ты хілішся,
О, княства лёс!
За рысаю якой твая дзяржаўнасць
І страта твая — волі і ўладарства?
Усё, што здабывалася яднаннем,
І вольна і нявольна,
Курганамі,
Крывёю ратнай, памнажэннем моцы —
Няўжо ўсё гэта
Дымам, крахам, прахам
На злом і на распад пайдзе?!
Карона!..
Я сёння ўпершыню так востра сэнсам
Тваім працяты... Холадам бліскучым
Твайго прамення, што міргае звабна
З мацарства Польшчы...
Корань Гедыміна!
Як ты зманіўся бляскам тым чужым
Сваё чало азмрочыць?.. Пад табой
Пласты зямель Літвы Вялікай!.. Колькі
Плямёнаў Белай, Чорнай Русі — ў звязках
З плямёнамі — аўкштайты, жмудзь, літва —
Крывёй зрадніліся!
Спачатку здолей
З'яднаць, спавіць, пераплясці карэннем
Сваё, а на чужым — каб жа не ўсохнуць!
Быў лёс угатаваны нам адной
Зямлёй, гісторыяй самой!
А сёння
Ты што Айчыне ўгатавала,
Крэва?!
Ды ўсё ж мая рука, душа, мой розум
Ніколі так не праглі спраўлавання,
Кіпучай дзеі — як цяпер!..
Я мушу
Усёй сваёй памыснасцю і воляй
Давесці гэтым творцам унітарным,
Што землі нашы будзе не так проста
Вам праглынуць паквапнай пашчай уній!
Вы будзеце ўчыняць яшчэ не раз
І множыць іх праз доўгія гады
І з веку ў век, і з захаду і ўсходу,
Каб зноў і зноў пацвердзіць сваё права
На ўціск і на захоп...
Але ў дзяржаве,
На землях нашых я ўзгадую моц,
Невынішчальны дух супраціўлення,
Каб — на векі таксама! —
Непадлегла.
Жываначальна...

●

## МАНАЛОГ ПАРАБАВАНАЙ КАРОНЫ ВІТАЎТА[1]

Луцк, 1430 г.
(з драматычнай паэмы «Крэва»)

Мяне перанялі велькапаляне.
Ніводзін звер не знаў такіх засад!
На кожнай сцежцы —
Біскуп ці магнат.
І меч.
То ж на карону паляванне!
Я не дайшла
Да белага чала...
Ні да яго рукі,
Ні да надзеі...
Замест мяне —
Вянгц пакуты ўздзелі
На лоб ягоны саван і імгла.
Ён так чакаў!
Чакалі мёд, дзічына,
З пайсвету госці, прынцы, каралі.
Чакалі рольнікі яго зямлі,
Мысліўцы, бортнікі...
Яго Айчына.
Навошта я яму?
Хіба замала
Прынёс яму славутасці Грунвальд?
Айчына, што адкінула назад
Татарскі гвалт,
Хіба не ўвянчала?
Плыла бясконца ўлетку і ўзімку
І малаком, і мёдам, і пушнінай,
І чорнаю крывёю чужаніна
Яго зямля...
Навошта я яму?
Як ён стагнаў начамі ў даўкім сне!
Сыночкаў клікаў двух —
З мурой, з чужыны:
Іх крыжакам заложнікамі кінуў
З атрутай кубак выпіць...
З-за мяне?!
Касцёлы, прывілеі...
Выбірай!
Няхай у зман не ўводзіць выгляд брацкі...
Ужо не ўсходам —
Захадам магнацкім
Рабунак запаўзаў глыбока ў край!..
Ён сэрцам зацвярдзеў, нібы мая
У бляску апаяска...
Ды ў беларусінаў —
У радах, думах —
Радцу меў за сына!
Манархам ён не быў!..
Навошта я?
Навошта я?
Застаўся ён бясчадным!
Ні дзедзічам яго і ні яму
Я не свяціла больш...
Але чаму
Ён так глядзеў на шлях —
З мальбой адчайнай?
Чаму ў трызненні
Водбліск мой трывожыў
Яго, вяртаючы і зрок, і слых,
Калі мяне ў апошні нават міг
Прасіў уздзець —
І на смяротным ложы!
Я не магла нічым дапамагчы,
Калі на дол з рукі яго апалай
Ключы зваліліся...
Цішком Ягайла
Падняў...
Ад замкаў... Ад зямлі ключы!
Мяне, рассекшы мечам надвая,
Прыцвікавалі ў Кракаўскім саборы...
Як сімвалічна са сцяны гаворыць
Пра еднасць душ,
Пра лёс наш
Плоць мая!..

[1] Вітаўт зрабіў усе захады дзеля ўвянчання Вялікага княства Літоўскага ўласнай Каронай. Гэта рабіла б Княства незалежным і роўнаўвялікім Кароне Польскай. Але карону Вітаўта па дарозе ў Луцк перахапілі палякі. Удар быў смяротны для Вітаўта.

## РУПЛІЎЦЫ. ПРА ТЫХ, КАМУ МЫ ЎДЗЯЧНЫЯ.

# АНТОН АНТАНОВІЧ

◆◆◆

Даследаванне гісторыі беларускага пісьменства мае даўнія традыцыі. Сярод айчынных вучоных, якія прысвяцілі сваё жыццё гэтай пачэснай справе, адметнае месца належыць Антону Антановічу. Ён стаў вядомым у нашай краіне і за мяжой не колькасцю выдадзеных прац, а іх навізной і арыгінальнасцю.

А. Антановіч нарадзіўся 6 чэрвеня (24 мая паводле старога стылю) 1910 года ў вёсцы Казлы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў мясцовых школах, а потым у Віленскім тэхнічным вучылішчы. Скончыў яго ў 1932 годзе вельмі паспяхова, аднак ва ўмовах панскай Польшчы знайсці работу па атрыманай спецыяльнасці не змог. Зарабляў на пражыццё фізічнай і разумовай працай. Папераменна быў і чорнарабочым на будаўніцтве, і дыспетчарам на чыгунцы, і настаўнікам пачатковай школы на Ашмяншчыне, і супрацоўнікам Беларускага музея ў Вільні. Увесь гэты час настойліва займаўся самаадукацыяй і ў 1944 годзе здаў пры Віленскай мужчынскай гімназіі экстэрнам экзамены на атэстат сталасці. Пасля службы ў Савецкай Арміі (1944—45) паступіў на філалагічны факультэт (аддзяленне рускай мовы і літаратуры) Віленскага універсітэта. Скончыўшы універсітэт, працаваў старшым бібліёграфам у рукапісным аддзеле навуковай універсітэцкай бібліятэкі. Пасля абароны ў 1961 годзе кандыдацкай дысертацыі быў абраны старшым выкладчыкам, затым дацэнтам Віленскага універсітэта. У 1969 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. Памёр 27 снежня 1980 года.

Кандыдацкая дысертацыя А. Антановіча з'яўляецца першым спецыяльным даследаваннем помнікаў старога беларускага пісьменства, якія ўзніклі на літоўскай моўнай тэрыторыі. За аснову ўзята актавая кніга Ковенскага земскага суда 1566—1567 гадоў. Гэта рукапіс на паперы аб'ёмам у 237 лістоў вялікага фармату, выкананы беларускім скорапісам 16 стагоддзя. Тэкст складаецца з запісаў (усяго 721) рознага зместу, якія адлюстроўваюць грамадскі быт людзей таго часу, іх норавы і звычкі. Большасць складаюць скаргі і заявы асоб розных сацыяльных груп пра ўчыненыя над імі пабоі і знявагі, кражы і грабяжы, самавольны захоп зямельных урочышчаў, маюцца паведамленні пра ўцёкі сялян ад сваіх паноў, пра спаленне жанчыны на кастры за вядзьмарства і іншыя. Аўтар дэталёва прааналізаваў графіку, арфаграфію, фанетыку, марфалогію і лексіку гэтага помніка і ў выніку прышоў да вываду, што мова яго істотна не адрозніваецца ад мовы іншых беларускіх пісьмовых помнікаў таго часу. Так, з фанетычных асаблівасцяў там адлюстравана аканне, яканне, дзеканне і цеканне, ацвярдзенне шыпячых і зычнага *р*, маюцца выпадкі замены гука *ф* гукам *х* і спалучэннем гукаў *хв*, з марфалагічных — канкурэнцыя канчаткаў — *-а/-я/* і *-у/-ю/* у формах роднага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з этымалагічнай асновай на «о», пераход перад канчаткам зычных *г, к, х*, у *з, ц, с* у формах давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з этымалагічнай асновай на «а» і іншыя характэрныя асаблівасці беларускай мовы. Аснову ж



лексікі складаюць словы агульнаславянскага і беларускага паходжання. Аднак паколькі тэксты пісаліся літоўцамі, то ў фанетыцы, марфалогіі і лексіцы знайшлі месца некаторыя фанетычныя, граматычныя і лексічныя элементы літоўскай мовы як заканамерны вынік міжмоўнай інтэрферэнцыі.

Па тэме кандыдацкай дысертацыі аўтарам апублікаваны два змястоўныя артыкулы: «Пытанні фанетыкі беларускай актавай мовы XVI ст. Па матэрыялах судовай (актавай) кнігі Каунаскага земскага суда 1566—1567 гг.» (1960) і «Графіка і арфаграфія судовай (актавай) кнігі Каунаскага земскага суда 1566—1567 гг.» (1961).

Тэмай доктарскай дысертацыі А. Антановіч абраў помнікі татарска-мусульманскай пісьменнасці на беларускай мове. Вынікі гэтага даследавання выкладзены аўтарам у кнізе «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» (1968). Названыя пісьмовыя помнікі звязаны сваім паходжаннем з татарамі, якія aселі ў Беларусі і Літве ў XIV—XV стагоддзях спачатку як ваенна-палонныя, а затым як добраахвотныя пасяленцы. Жывучы сярод беларусаў, татары паступова забывалі сваю мову і пачыналі карыстацца беларускай. Застаючыся мусульманамі, яны дзеля захавання сваёй рэлігіі вымушаны былі каран і іншыя кнігі іслама перакладаць на беларускую мову, перапісваючы гэтыя пераклады арабскім алфавітам, а таксама ствараць на беларускай мове арыгінальныя творы.

Па жанры беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, разнастайныя. Сярод іх колькасна пераважаюць *хамаілы* — дапаможнікі для служыцеляў рэлігійнага культу, *кітабы* — рукапісныя зборнікі аб жыцці і дзейнасці Магамета і яго паплечнікаў, біблейскія легенды, апісанні абрадаў, рытуалаў і абавязкаў мусульман, маральнапавучальныя апавяданні і нават прыгодніцкія аповесці, *тэфсіры* — тэксты карана на арабскай мове з падрадковым перакладам на беларускую мову, і *тэджвіды* — зборнікі правіл чытання арабскага тэксту карана. А. Антановічам выяўлены ў архівах, бібліятэках, музеях, а таксама ў прыватных асоб дваццаць чатыры вядомыя і невядомыя дагэтуль рукапісы XVII— пачатку XX стагоддзяў, з іх дзесяць хамаілаў, восем кітабаў, тры тэфсіры, адзін тэджвід, адзін беларуска-турэцкі слоўнік, які быў напісаны каля 1836 года і прызначаўся для вывучэння турэцкай мовы асобамі, якія збіраліся выехаць у Турцыю, а таксама адзін дзелавы дакумент 1759 года, напісаны на польскай мове, але з беларускімі моўнымі асаблівасцямі. У кнізе дадзена класіфікацыя гэтых помнікаў па месцы захоўвання, па жанравай прыналежнасці, ахарактарызаваны аб'ём і стан захавання кожнага помніка, прыведзены звесткі і меркаванні аб часе і месцы яго ўзнікнення. Вельмі вялікая ўвага ўдзелена аналізу графікі, арфаграфіі, граматычнага ладу, лексічных асаблівасцяў тэкстаў, падрабязна разгледжаны спосабы перадачы на пісьме зычных і галосных гукаў беларускай мовы арабскімі літарамі, тут жа выкладзена распрацаваная даследчыкам сістэма транслітэрацыі арабскага пісьма ў сучаснае беларускае. Усеназіранні і вывады праілюстраваны фотакопіямі арыгіналаў і ўзорамі іх транслітэраваных тэкстаў

Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, так усебакова і глыбока даследаваны ўпершыню менавіта А. Антановічам і сталі дзякуючы гэтаму вядомымі шырокай навуковай грамадскасці. Яны маюць вялікае значэнне для нашай літаратуразнаўчай і мовазнаўчай навук, бо пашыраюць наша ўяўленне аб старажытных помніках беларускай пісьменнасці, даюць многа новых і карысных фактаў аб суадносінах беларускай літаратурнай і жывой гутарковай мовы на розных этапах развіцця, аб фанетычных, граматычных і лексічных асаблівасцях розных беларускіх народных гаворак.

А. Антановіч пакінуў пасля сябе багатую навуковую бібліятэку і многа каштоўных навуковых матэрыялаў. Шкада, што беларускія даследчыя ўстановы своечасова не паклапаціліся аб іх набыцці і яны былі куплены Віленскім дзяржаўным універсітэтам.

І. ГЕРМАНОВІЧ.

# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ І БЕЛАРУСЫ

лікага Княства Літоўскага па сьмерці Вітаўта панаўлялася 1447 г., 1451, 1453, 1501, 1563, 1564, 1566, 1567 г. Аж урэшце, аслабленая літоўска-беларуская дзяржава ў 1569 г. у Любліне падпісала унію, якая касавала цалком незалежнасьць гэтай дзяржавы.

Ідэя Ягайлы затрыумфавала, перамагла ідэю Вітаўта. Але ці справядлівая была гэна перамога і ці трывалая? Перамога гэна сьвяткавала сваё на нашых землях сьвята праз два вякі, аж да канца 18 сталецьця, калі Польшч у сваей экспансіі на ўсход, спаткаўшыся з другой, такжа самалюбнай прэтэндэнткай на нашыя землі, з Масквой, казаў-бы Ягайлам навыварат, была паканана гэнай Масквой, якая сьцяг свой горда заткнула на грудзях самой нават Польшчы...

Пасьля развалу Расеі магутны дух Вітаўта ўзноў абудзіўся на нашых землях. Народы, становячыя некалі слаўную яго дзяржаву — Літвіны, Беларусы і Украінцы, натхнёныя духам ягоным, прыпомнілі аб сваей слаўнай некалі мінуўшчыне і прыступілі, на гэты раз кожны паасобку, да яе адбудовы. На перашкодзе бачым узноў адвечных праціўнікаў гэтых народаў — дух польскі Ягайлы і дух маскоўскі.

Дык і ня многа гэтыя народы даканалі. Літвіны здабылі сваю незалежнасьць часткова, беларусы і ўкраінцы яшчэ менш, бо і ня частку, а толькі сурро-гаты самабытнасьці, толькі фікцыю яе на частцы сваей тэрыторыі пад чырвоным сьцягам С.С.Р.Р.

Дык штож на гэта дух Вітаўта Вялікага? Мо ўжо прышоў канец яго дзейнасьці? Мо ўжо раз назаўсёды ідэя Ягайлы і ідэя Масквы ўсталілі граніцу сваей экспансіі на нашых землях?

На гэтыя пытаньні няхай нам адкажуць сучасныя польска-літоўскія і польска-расейскія граніцы, якія парэзалі спадчыну Вітаўта.

Вось тут шмат нам мае сапраўды... Ідэя яго сяньня, як жывая прад намі!..

Жывая сяньня і жывая будзе заўтра. Калі наступіць поўнае зрэалізаваньне народных ідэалаў Літвіноў, Беларусаў і Украінцаў, калі ідэалы гэтыя прыадзенуцца ў вопратку паасобнай іх самастойнасьці — будзе гэта толькі этап да яшчэ бліжэйшага сужыцьця іх, да шырокай супольнай палітычнай арганізацыі, маючай вокны на сьвет шырокі праз Чорнае і Балтыцкае мора...

Словам, ідэя Вітаўта Вялікага — гэта праводная зара для Літвіноў, Беларусаў, а так-жа і для Украінцаў, як у мінуўшчыне, так і ў сучаснасьці і ў будучыне. Дарогі гэтых народаў, супярэчныя з духам Вітаўта — дарогі сьмерці іх, дарогі-ж натхнёныя духам Вітаўта — гэта дарогі іх перамогі, дарогі сьветлай будучыны!..

Публікацыя Генадзя ТУМАША.

---

## «Наваградскі кур'ер»

Яшчэ адна беларуская газета нарадзілася на свет Божы — «Наваградскі кур'ер». Гэта штомесячнае выданне, якое выпускае Наваградскае раённае Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Газета друкуецца на два колеры, мае шаснаццаць старонак, памер якіх акурат як у «Нашага слова». Каштуе 50 капеек.

Першы нумар «Наваградскага кур'еру» выйшаў накладам у тысячу паасобнікаў і імгненна разышоўся па спадарстве. У газеце пад рубрыкаю «Мова» і за подпісам М. Бераст надрукаваны артыкул «Замячацельна, інцярэсна, увлякацельна...», дзе гаворка вядзецца пра стан нашае мовы. Змешчаны цікавы ілюстрацыйны матэрыял «Наваградак у старых паштоўках». Прываблівае чытача і рубрыка «Бывай, зброя!». Пад ёю выступае Сяржук Ярошыч з публікацыяю «Адмаўляюся служыць у такой арміі». Апублікаваныя навэла Баляслава Абрыцкага «Радня», эсэ Міхася Талочкі «Мой зямляк Жоржык», байка В. Астравецкага «Аграномы», верш Самсона Пярловіча «Гімн малога беларуса». Юрась Гацкі падрыхтаваў матэрыял «На іголку. Расповяд наваградскай наркаманкі». Андрэй Аблажэй з Вільні выступае з роздумам паводле праблемаў Віленскага краю. Артыкул мае назоў «Беларусы ў Літве розныя». Пра айчынныя сымболі у артыкуле «Наш штандар бел-чырвона-белы...» распавядае Сяржук Сянкевіч з вёскі Ярошычы. У нумары друкуюцца «Беларускі гістарычны каляндар», «Расейска-беларускі слоўнік» (паводле В. Ластоўскага), розныя спосабы лекавання хваробаў з кніжкі Алеса Белакоза «Гудзеўская народная медыцына», іншыя цікавыя звесткі.

Рэдагуе «Наваградскі кур'ер» Міхась Талочка.

Каб атрымаць газету ў 1991 годзе, дастаткова выслаць паштовы перавод на сем рублёў (напісаўшы выразна зваротны адрас і сваё прозвішча) па адрасе: 231400, Гродзенская вобл., г. Наваградак, вуліца Валчэцкага, д. 49А, кв. 1. Таццяне Хацько.

Прапануем увазе чытача адзін з вершаў, што змешчаны ў «Наваградскім кур'еры».

Самсон ПЯРЛОВІЧ.

### ГІМН МАЛОГА БЕЛАРУСА

Беларусам нарадзіўся —
Беларусам буду жыць.
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць.
Мне радзімая старонка
Наймілей, найдаражэй,
Беларуская гаворка
Мне за ўсё найпрыгажэй.
Сцяг наш бел-чырвона-белы
Буду сэрцам саграваць
Буду герб з Пагоняй смелай,
Як святыню, шанаваць.
Славу родную і волю
Я ніколі не прадам.
За народ наш беларускі
Я жыццё сваё аддам.

## Ушанавалі памяць пра земляка

Вуліца і завулак Фрыдрыха Энгельса ў мястэчку Луна, што ў Мастоўскім раёне Гарадзенскае вобласці, зараз маюць імя Міхася Явара. Змена найменняў зробленая паводле рашэння Лунаўскага Савету народных дэпутатаў. На пасяджэнні выканкаму таксама вырашана добраўпарадкаваць магілку паэта.

## Выхад з падполля

Сёння кожны жыхар, кожная ўстанова і грамадская арганізацыя ў Радашкавічах могуць свабодна выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню. Гэткае права гарантуе пастанова Радашкавіцкага пасялковага Савету народных дэпутатаў, якія на нядаўняй сесіі вырашылі легалізаваць нацыянальныя сымболі беларусаў.

❖❖❖

## Ліст Сокалава - Воюша

Беларусі паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш, які зараз знаходзіцца ў Злучаных Штатах Амерыкі, надрукаваўся ў эміграцкай газеце «Беларус» з артыкулам «Будзем шукаць або Адкрыты ліст пісьменніку А. Салжаніцыну». Ён, між іншага, піша: «Мільёны людзей, гатовыя пайсьці за Вамі ў Расіі, маглі б зрабіць нямала. Там, на Радзіме, Вы можа быць хутчэй зразумелі-б, што «обустраивать» Расію трэба не коштам іншых народаў, як гэта было на працягу траха ня ўсёй яе гісторыі».

# СВЯТЛО НЕМАГА СТРАЦІМА

*Я — белы ў чорным, немы Страцім.*

*А. Сыс. «Маналог Сяргея Палуяна».*

«Не думайце, што я паміраю з-за незабяспечанасці. Не. Жыць так, як жыву я, няма ніякага сэнсу... Я так люблю жыццё, свет і красу, але не на маю долю гэта выйшла... Шкада паміраць так дарэмна, але так трэба». Гэтыя радкі з перадсмяротнага ліста Сяргея Палуяна.

Сапраўды, колькі не чытаеш гэты ліст, усякі раз падступае камяк да горла, паўстае пытанне, якое вырастае з ліста: «Навошта так трэба? Каму так трэба?»

Сёння, калі святкуецца 100-я гадавіна з дня нараджэння беларускага крытыка, асоба Сяргея Палуяна паўстае перад намі ў незвычайных фарбах. Жыццё і смерць яго дае шмат падставаў для роздуму і здагадак.

Адна з такіх падставаў фармулюецца проста: «Як за няпоўныя паўтары творчыя гады Палуян змог даць так шмат беларускай літаратуры, змог ажыццявіць такі значны інтэлектуальны высілак?» Ці толькі тут справа ў незвычайным таленце маладога пісьменніка і крытыка, творчы пік якога выпаў на час першага Адраджэння? Здаецца, не толькі гэта — відавочнае.

Сяргей Палуян як увесь свой душэўны запал барацьбе супраць місіянерства з Усходу і Захаду. Для С. Плуяна першасная ідэя вольнай Бацькаўшчыны зачалася ў асяроддзі лепшых прадстаўнікоў маладой беларускай інтэлігенцыі. Сацыял-дэмакратычныя ідэалы, агульныя для кожнага прагрэсіўнага чалавека, якім Палуян аддаў належнае на пачатку свайго творчага і жыццёвага шляху, трансфармуюцца ў асэнсаванае змаганне за лепшую будучыню менавіта беларускага народа.

Менавіта праз гэта паўстае згадка пра непажаданасць нацыянальнай ідэі крытыка для сучасных «місіянераў», якія перахрысцілі літаратара, паводле слоў філосафа У. Конана, у «буржуазнага ідэолага» дый носьбіта «кулацкай ідэалогіі». («ЛіМ». 24.X.1986 г.).

Усяго нейкія паўтары гады інтэнсіўнай творчасці Сяргея Палуяна далі напрамак развіцця амаль усіх кірункаў тагачаснага Адраджэння. І сёння многія з іх не страцілі сваёй актуальнасці (усё ж з-за таго місіянерства!). Вось толькі невялікая вытрымка з адной работы Палуяна, пасля якой усе паралелі становяцца зразумелыя. У артыкуле «Пра нацыянальную школу на Беларусі» (З нагоды выхаду зборніка «Белорусский учитель» у Пецярбурзе) крытык адзначае: «Яна (рэдакцыя зборніка. — А. М.) не бачыць ва ўсіх задачах аднаго яднальнага пачатку. Для яе школьная рэформа і агульная асвета стаяць зусім у іншай плоскаці, чым нацыяналізацыя школы. Гэта рэчы, што не маюць паміж сабой нічога агульнага. Упаўшы ў такое прынцыповае неразуменне, рэдакцыя ўжо не можа асвятляць як след патрэбы сучаснага настаўніцкага жыцця, бо яна не хоча разумець, што без нацыяналізацыі школы на Беларусі немажліва рэфармаваць гэтую школу; тут ужо не дапаможа ніякае пашырэнне школьных праграм». Не трэба, здаецца, асабліва падкрэсліваць, наколькі дакладна ўзнята Палуянам карэнная для жыцця беларускай нацыі праблема «просвещения» і нацыянальнай адукацыі, якую ў нас і сёння не жадаюць сумяшчаць у тых, палуянаўскіх «пласкасцях».

Парадокс, але нагледзячы на трагічнасць постаці крытыка, складанасць стану тагачаснай рэчаіснасці, — змаганне з «сепаратизмом», — творчасць Сяргея Палуяна надзвычай жыццесцвярджальная, баявая, крыху іранічная і гэтак далёкая ад «чоргага прароцтва» і «інтэлігенцкага» скавытання пра безвыходнасць нашага стану.

З гэтай творчай рысы Палуяна паўстае і асаблівасць жыццёвай пазіцыі крытыка — жыццёвая неабходнасць у дзеянні на карысць роднай Беларусі. Сёння гэта называюць «праектным мысленнем»: з'явілася ідэя, нешта задумаў — ажыццявіў. І толькі так наблізіў доўгачаканы росквіт Бацькаўшчыны...

Са здзейсненага, з «праекту» ягонага пісьменніцкага і крытычнага таленту паўстае і перспектыва няздзейсненага. Калі ў думках праэкстрапаліраваць лёс Палуяна ў параўнанні з іншымі дзеячамі тагачаснага Адраджэння, то можна ўявіць і маштабы няздзейсненага пісьменнікам: у рэвалюцыйны час яго ўбачылі б мы ў шэрагах змагароў за незалежнасць Беларусі, у БНР, у гады 30-я — напэўна сярод пакутнікаў ахвяр сталінскага генацыду.

Але гэтую перспектыву абарвала яшчэ адна трагічная рыса крытыка — гранічны этычны рыгарызм — суровая паслядоўнасць у сваіх жыццёвых прынцыпах, немагчымасць выканання жыццёвых функцый па-за сваімі этычнымі ўстаноўкамі. Гэтая рыса Сяргея Палуяна родніць яго з лёсам аўстрыйскага філосафа Ота Вэйнінгера, аўтара адной прыжыццёвай кніжкі «Пол і характар».

Так, Вэйнінгер і Палуян пры жыцці пакінулі невялікую творчую спадчыну, якая пасля адыграла значную ролю ў інтэлектуальным жыцці народаў. Абодва пакутвалі ў нястачы і скончылі сваё жыццё самагубствам. Іх трагедыі ўскалыхнулі грамадства, неслі катарсіс для яго, заводзілі спружыны прыпыненага часу той эпохі, якую нехта назваў «бязчассем»...

Нездарма ж смерць Сяргея Палуяна ўскалыхнула душы і сумленне лепшых сыноў Беларусі, якія падкрэслівалі менавіта этычны подзвіг крытыка. Успомнім толькі радкі Максіма Багдановіча: «Моцна ціснула маладога пісьменніка сучаснае грамадскае жыццё, ды не скарыўся ён яму і за гэта заплаціў сваёй смерцю. Не забудзема ж яго ў час барацьбы і абдалення...» (Лісты ў будучыню, «Мастацкая літаратура». Мн., 1986 г., ст. 145).

Але трагедыя Сяргея Палуяна пацягнула за сабой і цуд: творчасць яго набыла іншы стан, атрымала зусім іншае падмацаванне — этычнае, адыграла інтэгрыруючую ролю для тагачаснай беларускай літаратуры.

Галоўнае ж, на творчым прыкладзе, на этычным учынку Сяргей Палуян падхапіў паходню ідэалу творцы і грамадзяніна Вялікага княства Літоўскага. Для гэтага ідэала існуе толькі адна мэта — воля гаспадарства краіны і яе народу, у барацьбе за якую склалі галовы лепшыя сыны Айчыны.

На алтар гэтай мэты ахвяраваў сваё жыццё і творчасць Сяргей Палуян.

«Такі талент нараджаецца адзін раз у сто гадоў» — кажуць пра гэтакіх людзей. Вось і мінае 100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Палуяна. Значыць, ужо недзе нарадзіліся тыя, Немыя Страцімы сучаснасці, якія таксама гатовы да ўсіх ахвяраў на шляху да вольнай Бацькаўшчыны, да святой яе Мовы... Але не смерці ад іх чакае змучаная Беларусь, а паратунку ад новага пакалення місіянераў на радыяактыўным папялішчы...

У іншым выпадку трэцяга Адраджэння ёй ужо не спатрэбіцца!

Анатоль МЯЛЬГУЙ.

# НА КАРЫСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

З дырэктарам Першай беларускай гімназіі, што адчынілася на базе сярэдняй школы № 198 г. Мінска Л. С. Аляксеевай гутарыць наш карэспандэнт Л. Баршчэўская.

— **Людміла Станіславаўна, гісторыя Вашай гімназіі яшчэ зусім кароткая. Але ж з чагосьці ўсё пачыналася?**

— З чаго пачыналася? Ну, напэўна, усё пачалося з гутаркі з загадчыцай гарана пра тое, што добра было б тут, у раёне, стварыць нейкую навучальную ўстанову, гэтакую не традыцыйную, цікавую. Ну і па-другое, магчыма сыграла нейкую ролю тое, што я сама выкладаю беларускую мову. А далей з'явіліся першыя цяжкасці, таму што праграм навучальных шмат, а спецыяльна для гімназій няма. Трэба было таксама прадугледзець, якія прадметы ўвесці, хто іх будзе выкладаць і, у сувязі з гэтым, хочацца сказаць вялікі дзякуй інспектару Міністэрства народнай адукацыі БССР Гаравой Наталлі Піліпаўне, якая блізка ўспрыняла нашы ідэі, разам з намі гарэла жаданнем зрабіць усё магчымае, каб вучэбныя планы былі апраўданы, дапамагала нават знайсці спецыялістаў. Нашы першыя спробы былі падтрыманыя і сёння мы маем нарэшце гімназію. Сюды прыйшлі дзеці з розных мікрараёнаў г. Мінска.

— **Колькі класаў цяпер у гімназіі і колькі з іх беларускамоўных?**

— Цяпер у нас налічваецца 40 класаў. З іх 13 беларускамоўных.

— **Калі прааналізаваць сусветны вопыт, то гімназіі ствараліся для самых здольных і таленавітых навучэнцаў. Якія крытэрыі адбору існуюць у Вашай гімназіі?**

— Гэта правядзенне тэстаў і гутарак з вучнямі. Менавіта ў залежнасці ад іх вынікаў створаны першыя класы. Яны ўсе беларускамоўныя. З наступнага года будуць праводзіцца іспыты і мы будзем набіраць вучняў па конкурсу.

— **Я ведаю, што бацькі з вялікімі ваганнямі і сумненнямі аддаюць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы ў звычайных школах. Настаўнікі вымушаны хадзіць па кватэрах, агітаваць. А як з гэтым у Вас?**

— Ужо тое, што ў школе створана дзесяць першых беларускамоўных класаў, сведчыць, што бацькі, з вялікім задавальненнем аддаюць сваіх дзяцей у беларускую гімназію. У іх жыве вера ў магічнае слова «Гімназія» і вялікае жаданне, каб іх дзеці набылі рознабаковыя веды.

— **Якія новыя дысцыпліны выкладаюцца ў гімназіі?**

— Перш за ўсё гэта логіка ў гульнях для вучняў 5-х і 6-х класаў. Пачынаючы з 4-га класа, дзеці навучаюцца польскай і балгарскай мовам, ва ўсіх беларускамоўных першых класах — англійскай. Выкладаюцца таксама мастацтва, нямецкая мова, харэаграфія, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Старэйшыя класы ў нас маюць педагагічны або радыётэхнічны профіль. Існуюць вельмі цесныя сувязі з радыётэхнічным інстытутам і педагагічным інстытутам імя Горкага. У гімназіі арганізавана навучанне радыётэлеграфістаў.

— **Для кожнага дырэктара вельмі важна падабраць сабе педагагічны калектыў, знайсці аднадумцаў, як робіце гэта Вы?**

— Зразумела, што ў гімназіі павінны працаваць вельмі таленавітыя дасведчаныя педагогі, якія выдатна ведаюць свой прадмет і добра валодаюць методыкай яго выкладання. Таму нашы задачы цяпер наступныя: правесці да канца навучальнага года атэстацыю, вызначыць узровень падрыхтоўкі педагагічных кадраў і, пачынаючы з наступнага навучальнага года, запрашаць на працу ў гімназію настаўнікаў на конкурснай аснове.

— **Ці ўсе настаўнікі, што працуюць тут, добра валодаюць беларускай мовай?**

— Цяпер можна сказаць упэўнена, што яшчэ не ўсе. Аднак, на маю думку, калі будзе ўведзены поўны моўны рэжым, становішча памяняецца. Для педагагічных кадраў веданне беларускай мовы абавязковае.

— **1 снежня адбылося адкрыццё Першай беларускай нацыянальнай гімназіі. Некалькі слоў пра гэтае свята.**

— Запрашалі на адкрыццё беларускай гімназіі шмат каго: пісьменнікаў, і дэпутатаў, усіх, хто меў непасрэднае дачыненне да яе стварэння. Але, на вялікі жаль, не ўсе, каго запрашалі, змаглі прыйсці. У нас былі на свяце генеральныя консулы Польшчы і Балгарыі Тадэвуш Мысьмік і Стоіл Фердаў, начальнік Упраўлення сярэдняй адукацыі МНА БССР Г. М. Пятроўскі, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», старшыня Беларускага аддзялення Дзіцячага фонду імя У. І. Леніна Уладзімір Ліпскі, галоўны інжынер будтрэста № 4 Анатоль Грынько і шмат іншых. Трэба тут сказаць таксама пра старшыню Гарадскога бацькоўскага камітэта Алеся Шамака. Яго ўдзел у стварэнні гімназіі вельмі важкі. А свята адкрыцця, напэўна, запомніцца і дзецям, і іх бацькам...

— **Пра што Вы б яшчэ хацелі сказаць на заканчэнне?**

— У горадзе ўжо чатыры гімназіі. А нумар нашай ажно 198. У мяне ёсць прапанова перагледзець гэта і ўвесці нумарызацыю толькі для гімназій.

— **Што ж, застаецца падзякаваць Вам і пажадаць вялікіх поспехаў у працы на карысць Бацькаўшчыны.**



Фота А. Сасіноўскага

# СЛУХАЙМА, ЯК ЛЮДЗІ КАЖУЦЬ...

Павел МІСЬКО

Спечаныя на скорую руку тэарэтыкі ад прыгожага пісьменства, апраўдваючы няведанне роднай мовы маладымі пісьменнікамі-гарадчукамі, хваляць іх за «прыстойную гарадскую беларускую мову». Даруйце, а хіба ёсць такая? З пачварнай мешанінай у лексіцы, з прыдумкамі і запазычаннямі з польскай, украінскай, з рускім сінтаксісам — гэта прыстойная беларуская мова? Кішэні сваёй памяці маладыя беларусы-гарадчукі не абшарваюць, бо нічога там не вышукаеш дый кішэнь тых вобмаль. Твораў старэйшых пісьменнікаў, добрых знаўцаў народнай мовы, яны не чытаюць, лічаць, што даўно пераплюнулі іх, заткнулі за пояс, схапілі бога за бараду. Амбіцыі многа, амуніцыі малавата...

Што ж, тады давайце слухаць, як людзі кажуць. Вось тое-сёе з маёй запісной кніжкі...

У краме, у чарзе цётка кажа дачцы:

— **Пільнуйся** во гэтага дзядзькі. Я **адхінуся** па малако.

— Не давай яму **ганьбы**, Насцечка. Лепшага хлопца не знойдзеш, дальбог. Такі **спраўны**!

— Міша, і дакуль ты будзеш **гайдамачыць**? Усе твае **гадкі** ўжо ажаніўшыся.

— Камбайны, камбайны... А даўней усё жалі ў **рукі**, нідзе ні каласочка, ні беднага не пакідалі. А гэта ж во, **плача жыцейка**...

— **Гаравітая**... Усё жыццё гаруе, адна пяцёра дзяцей **падняла**.

— Лепак навешалі ад мух, а яны **сляпіцаю** ў хату **лезуць**. Хоць малахам махай... Ведама, восень...

— Абы на **поглум** пусціць? Не-е, яблыка без пары не чапай. І не **лежкае** будзе, і **несмач**.

— Во, вылез ужо **галасіла**... **Набухтораць** дурня, а ён і сунецца на трыбуну.

— Ай-яй-яй, **упусціўся**? Каця, памяняй малому штончыкі...

— Ох, ледзьве **ахаяла** іх... Вады не **напасціся** на гэтых **шмаравозаў**.

— От круцёлка... Але ж не **ўседзіць** ніякім **родам**. **Шыла**, а не хлопец!

Бабка ў тэлевізары дае інтэрв'ю:

— Песня мяне і **разважыць**, і суцешыць. А бывае, што напяюся і **наплачуся**...

— У цябе не будзе тры рублі? А то мне сотню **патрашыць** трэба. А размяняеш, то і расшэйгаеш раз-два.

— Зборлівы дзядзька. А я, во, разбіў пяцьдзесят, дык што **вада між пальцаў**.

— Торф ёсцека на зіму, трэба яшчэ дроў як **агораць**, **прыстараецца**.

— **Слізгавіца**, ногі можна павыкручваць.

— **Бязгодзіца**, ні восень, ні зіма.

— І летась такая **скальзеча** была.

— Во **асвінеў**, а? Ужо ў райком дзверы нагою адчыняе.

— А чаму б і не **свінець**? Пяць мільёнаў доўгу з калгаса спісалі на Чарнобыльскі фонд. А яму да таго Чарнобыля больш за трыста кіламетраў.

— Недзе **валасатую руку мае**.

— Ну што, **даражэнечкія** мае, далі ўжо вам якое **пасярбухі**? Зможаце ногі **пераставіць**? То патупайце трошкі па калідоры, я ў вас у палаце **санітарнасць** **асвяжу**.

— Колькі яму ўжо гадоў? Пад восемдзесят? Ого, а я то думаю, чаму ён **не ідзе, а дрыпае**.

— Яна ж нічога падняць не можа, страўнік **абніжаны**. А раней на работу **ахвотная** была.

— На тым **аборвістым** беразе дзяцельнік — мёд, чысты мёд. Ідзеш, а **скакунцы** з-пад ног пырсь-пырсь — як хто сее.

— **Ліхаматары**... **Пападгольвалі** дрэвы, хочуць, каб пасохлі. **Застуюць**, бо, **цемняць**... А нашто ж было так пхаць густа ды каля самых вокан?

— Ну, вы ўжо **абзаконіліся**? Былі ў ЗАГСе?

— Лес тут вялікі, **разброд** добры... Нікому не цесна, усе панабіраюць і ягад, і грыбоў.

— Унучак, прынясі мне **саўгачы**, я пераабуюся. Хай хоць ногі астынуць.

## ЛІСТЫ НА АДРАС «НАШАГА СЛОВА»

# Не цурайцеся роднае мовы

Лічу, што перш за ўсё разам з утварэннем нацыянальных школ паралельна трэба адкрываць як мага больш бібліятэк таксама нацыянальных, і ў першую чаргу беларускіх. Я маю на ўвазе тую акалічнасць, калі ў арсенале такіх бібліятэк 70—80 % літаратуры на беларускай мове і астатнія— 30—20% на мове тых або іншых народаў, якія жывуць у гэтай мясцовасці. Чаму мае дзеці павінны чытаць літаратуру народаў свету і Саюзу толькі на рускай мове, як гэта ў нас заведзена? Хіба наша мова няздатная, каб на яе перакласці набытыя чалавецтвам літаратурныя каштоўнасці? Дарэчы, пра дзіцячую літаратуру. Яе катастрафічна мала на роднай мове.

Дужа хацелася, каб па тэлебачанні праводзілі заняткі па мове. Праўда, багата ёсць такіх, хто ўпарціцца, кажа: «Не вывучаў, не разумею, і не буду вывучаць». Ну хай сабе не вывучае, але як будзе працаваць, калі не зможа прачытаць і зразумець тую паперу, якую яму трэба падпісаць. А можа, такія вось і не дадуць ажыццявіць праграму «Адраджэнне»?

Нам яшчэ трэба вырашыць адну праблему са сродкамі інфармацыі. Справа ў тым, што не ўсё насельніцтва нашай рэспублікі мае магчымасць глядзець Беларускае тэлебачанне. У прыватнасці, гэта датычыцца і нашай вёскі асабіста. Нам, хто прыехаў з Гомельшчыны, дзіўна і незразумела, як можна жыць у рэспубліцы і не глядзець рэспубліканскае тэлебачанне. Літоўскую, польскую, першую ўсесаюзную праграму — калі ласка, а сваю?

Было б вельмі цудоўна, каб і камп'ютэры школьныя таксама былі беларускамоўныя. Чаму б не арганізаваць дубліраваны сінхронны пераклад фільмаў, што дэманструюцца на Беларускім тэлебачанні?

Вядома, на арганізацыю выдавецтваў і друкарняў, на перападрыхтоўку настаўнікаў і выхавацеляў для навучальных устаноў, тэле- і радыёжурналістаў, культасветработнікаў нам патрэбны велізарныя сродкі. Але, на жаль, наш урад да праблем культуры глухі. Нашы парламентарыі маюць настолькі нізкую нацыянальную самасвядомасць, што не здолелі ўзаконіць, вярнуць народу яго гістарычную нацыянальную сімволіку. Ці мы не маем права мець сваё ўласнае імя? Што ж, прыйдзецца жыць і далей, прабачце, у «саюзным дзетдоме» пад «святлом» казённых сімвалаў.

Хтосьці мне запярэчыць, маўляў, сімволіка — гэта дробязі, ці варта аб ёй успамінаць. Хіба няма больш важных праблем, напрыклад, эканоміка. Так, згодная. Але наша права, абавязак вярнуць добрае імя ўсяму таму, што было ў свой час выкарыстана ў неблагавідных мэтах, ад чаго, не разабраўшыся, мы так лёгка адракліся. Нехта вельмі ўдала сказаў, што бескультурная нацыя не зможа «аздаравіць» ні людзей, ні эканоміку. Усе галоўныя напрамкі клопату нашай дзяржавы — здароўе, культура, эканоміка павінны быць на адзінай вышэйшай ступені прыярытэту, іх праграмы павінны фінансавацца і ажыццяўляцца ў роўнай ступені.

Адной з нашых святынь з'яўляецца мова. Чаму яе цураемся? Чаму яе мала хто ведае? Чаму за мяжой змаглі зберагчы нашы суайчыннікі-эмігранты тое, што згубілі мы, савецкія беларусы, што дазволілі зганьбіць, абразіць!

Выхавацелі, настаўнікі, краязнаўцы, гісторыкі, усе, каму дарага роднае слова, наша культура, ператворымся ў сапраўдных асветнікаў, шчырых, неабыякавых. Прадоўжым справу нашых славутых землякоў, што стварылі і перадалі нам багатую спадчыну. Прадоўжым рух з глыбіні стагоддзяў, вызвалім з цемры забыцця «прамень Ефрасінні», каб абудзіць ад духоўнага сну наш народ! Нам ніхто не дапаможа, ні цар, ні бог, ні ўрад. Толькі нашы намаганні будуць вартыя ў справе Адраджэння. Толькі шырокі рух асветніцтва дазволіць нам захавацца як нацыі.

А я пачынаю з сям'і. Менавіта ў ёй пачынаецца шлях у свет роднага слова.

Прыйдзе час і я змагу расказаць сваім дзецям, хто мы, адкуль. Хто нашы бацькі і прадзеды, чым займаліся, пра што марылі, што шанавалі, што згубілі і што знайшлі на гістарычных раздарожжах; які герб і сцяг меў мой горад, хто яго прыдумаў і навошта, якія людзі і падзеі стаялі за гэтым, якія паданні, легенды пра іх складзеныя.

Ніхто мне не будзе фінансаваць экскурсы ў музеі і касцёлы, курганы і гістарычныя паркі, скверы, збор айчыннай літаратуры і г. д. Паспрабую напачатку выявіць ва ўласнай самасвядомасці свае сродкі духоўнасці, пастараюся ўкласці іх у справу станаўлення падрастаючых сыноў як асоб.

Святлана БУЛАНАВА.

*Хрысціна ЛЯЛЬКО*

# Пра самае важнае

У мітусні нашых дзён, у жорсткім процістаянні чалавека чалавеку, у дэфармаванай і, здаецца, безнадзейна загубленай чалавечай супольнасці, у самыя цяжкія моманты жыцця ратую сябе згадкаю пра аднаго і таго ж чалавека. Светлага душою і моцнага духам, чулага сэрцам і ўдумліва мудрага, непасрэднага і заўсёды, ва ўсім адкрыта шчырага. — Пра Яна Аляксеевіча Скрыгана.

На самым пачатку самастойнага жыцця ў Менску лёс неспадзявана і літасціва падараваў мне сустрэчу з ім.

Але перш... перш быў спякотны ліпеньскі дзень 1980 года. Дакладней, спелы яго полудзень. Родны падворак зарослы кучаравым пруткім румянкам, з раскідзістаю яблыняю дзічкаю над старою нашаю студняю, з якой я даставала якраз паўнюткае вядро вады, калі заспеў мяне звонкі голас вясковай паштальёнкі: «Газету вазьмі. Тут пра цябе напісана».

Вядро з плёскатам паляцела назад у студню, а ў руках праз якую хвіліну быў нумар «Чырвонай змены». Аказваецца, там, у сваім інтэрв'ю пра літаратуру, Ян Скрыган добрым словам згадваў і маё першае, надрукаванае ў« ЛіМе», апавяданне.

Божа, якая радасць занялася тады ў душы, якая акрыленасць адразу з'явілася. Гэта пасля ўжо зрабілася і трывожна і крыху страшна. А тады, спачатку, была радасць. Бо Скрыгана — пісьменніка, цудоўнага майстра роднага слова я ўжо даўно ведала і любіла. Бо яшчэ са школьнага юнацтва жыло ў душы цнатлівае хараство яго «месячнай начы», бо калісь, у студэнцтве, так светла, да шчымлівай слязы кранула сваёй чалавеай далікатнасцю апавяданне «Нал гаем кружылі буслы», а кароткая, на паўстаронкі «Песня Сольвейг» змагла адкрыць штосьці вельмі важнае пра самога аўтара, пра яго няпросты, цяжкі лёс. Пра які, зрэшты, мы, студэнты-філолагі, ужо ведалі і яшчэ на першых курсах часам напаўціха між сабою гаварылі.

А пасля, недзе больш як праз год, у Менску, мы сустрэліся з Янам Аляксеевічам. І якое ж гэта шчасце было ўпэўніцца, што вобраз пісьменніка, творцы, які склаўся ў маім уяўленні, абсалютна супадае з асобаю жывога, рэальнага чалавека, не разбурае, а наадварот, высвечвае ў ім усё новыя чалавечыя грані, робіць блізкім, дарагім, зразумелым...

«Усіх, пра каго пісана, я ведаў і любіў, стараўся, каб і чытач убачыў іх гэтак жа, як і я». Асветленыя шчырасю любоўю, як жывыя, паўстаюць з ягоных старонак Я. Купала і К. Чорны, М. Зарэцкі і Л. Калюга, А. Куляшоў і Зм. Астапенка. І так важна нам, сённяшнім, убачыць і адчуць іх, каб лепей зразумець саміх сябе; праз іхні жорсткі час глыбей спасцігнуць свой, таксама складаны і нялёгкі.

Калі чытаю ці перачытваю напісанае Янам Аляксеевічам, калі слухаю яго вусныя апавяданні пра перажытае, ад якіх часам вусціша робіцца на душы, заўсёды здзіўляюся яго незвычайнай здольнасці ў самым жахлівым, жорсткім знаходзіць добрае.

Па сутнасці, часцей за ўсё адзеля гэтае іскрынкі чалавечае дабрыні і вядзецца апавяданне.

«Наогул, мне шанцавала на добрых людзей. Былі і дрэнныя, але яны неяк скора забываліся. Можа, такая ўласцівасць чалавечай памяці, што благога яна доўга не хоча трымаць. А можа, тут проста ўмоўнасць, бо вельмі часта благое ідзе не ад самой душы чалавека, а ад яго пасады ці абавязку». Святая вера ў чалавека, не знішчаная, не закрэсленая гэтулькімі крыўдамі ўласнага лёсу... Як жа не хапае сёння нам усім такой выратавальнай веры, такой дабрыні, такое далікатнай, мудрай чалавечнасці.



На здымку Ян Скрыган з унукам Яськам

«Мне шкода некаторых слоў. Здаецца, мы вінаватыя перад імі, як перад людзьмі, якіх незаслужана пакрыўдзілі». Згадала гэтае выказванне Яна Аляксеевіча і падумала, што і яно таксама ад тае ж унутранай далікатнасці і чалавечнасці Майстра, ад яго непазбыўнага, шматгадовага клопату пра родную мову.

«У бацькаўшчыны заўсёды ёсць галоўны знак — яе мова». І яшчэ: «Можна грэбаваць чалавекам, а моваю нельга грэбаваць, бо гэта народ».

Часта вымаю з шуфляды і гартаю свае першыя апавяданні, па якіх уважліва й цярпліва прайшлася спагадліва-патрабавальная рука Настаўніка. І нязменна ўдзячна думаю: колькі ж раскрылі Вы мне глыбіні ў родным слове, дарагі Ян Аляксеевіч, як жа шмат адкрылі святла і сэнсу ў ім, пра якія я, трохі самаўпэўненая пачаткоўка, нават не здагадвалася, ад колькіх памылак абачліва, мудра засцераглі...

Калі бывае вельмі няўтульна ў гэтым астуджаным злымі скразнякамі свеце, дастаю з паліцы знаёмыя, звычліва надпісаныя кнігі. Або набіраю нумар тэлефона. Ці адчыняю знаёмыя дзверы. І святлею душою.

# СНЕЖАНЬ

**Таленавітыя і працавітыя нашыя прашчуры не пазычалі ні хлеба, ні словаў. Самі ўсяго прыстараліся. І як кожнай справе, прыладзе ці рэчы прыдумалі адмысловыя назвы, так і месяцам трапныя імёны далі. І падабралі ж, і знітавалі, нібы пацяркі, а яны ж ўсе такія розныя, адметныя. Не было ж аднолькавых з'яваў прыроды, часоў году, гаспадарчых клопатаў. «Вось так адно другім мянялась. Затым яно й не прыядалась»,— трапна сказаў Якуб Колас.**

Пагартаем жа далей старонкі яго паэмы «Новая зямля», гэтага шэдэўра беларускай і сусветнай літаратуры, энцыклапедыі народнага жыцця, жыцця нашых недалёкіх продкаў. Што там напісана пра гэтую пару?

«Прыйшлі піліпаўкі, Мікола...» У гумнах стукалі цапы, заканчвалася малацьба. «Снапы ў радочкі палажылі. Так і дзяды яшчэ вучылі... І пяць цапоў ідуць у дзела!.. І летні збор цяжэрнай працы, Хлябоў высокі торп-палацы, Праслухаў цэпаў голас ёмкі, і дзе быў торп — там стог саломкі. А цэп замоўк, хоць не на векі, і зерне ссыпалі ў засекі».

«Таксама вечар свае бавы Нясе з сабой не менш цікавы. І асабліва перад святам...» Доўгімі зімовымі вечарамі нашы продкі складалі і баялі казкі, байкі, быліцы. Мудрае слова западала ў сэрца, гартавала душу, будзіла розум. А колькі было гульняў і забаваў.

Шмат радасці прыносіў першы снег.«І вось над хатай, над гуменцам Сняжынкі жвавыя гуляюць... — О-го-го, брат,— дзядзька кажа: — Цяпер зіма напэўна ляжа!»

Снег, відаць, не выпадкова заважыў, калі выбіралася назва апошняму месяцу года... Рымляне, напрыклад, проста палічылі, каторы па-парадку... Дзесяты, так і пакінулі(да Цэзара ў іх новы год пачынаўся ў сакавіку). Ад іх слова з коранем дэце перанялі шмат якія народы Еўропы. Божычам, у сувязі з святкаваннем нараджэння Хрыста, назвалі гэты месяц сербы.

У нашых прашчураў за некалькі тысячагоддзяў да з'яўлення на свет Божага сына быў свой усемагутны бог — Сонца. Пасля паўгадовага паступовага заміранiя, калі яно ўсё ніжэй і ніжэй хілілася да небакраю, сонца пачынала адраджацца. Гэтай пары чакалі, віталі пераможцу радасна, ладзілі вялікае і працяглае — 12 дзён — свята. Палалі вогнішчы, у якіх гарэлі дубовыя галіны і бярвенні, палалі намазаныя смалою, абкручаныя саломаю, як і на Купалле, колы — каціліся нібы сонца... Гатавалі і спажывалі адпаведныя стравы.

Снег перамог культ Сонца, бо не быў за выпадковага, лішняга. «Многа снегу — многа хлеба»,— казалі продкі. А ў «Новай зямлі» Якуб Колас падаў яшчэ адну: «Снег на куццю — грыбы на лета, Такая магчына прымета».

Адрадзілася сонца... Снег — зачараваны дождж — чакае вясны...

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

# *У Тэрміналагічнай камісіі ТБМ*

Адбылося другое паседжанне Тэрміналагічнае камісіі Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны. На ім абмяркоўваліся практычныя пытанні ўдасканалення і распрацоўкі навуковае тэрміналогіі. Пагадзіліся на тым, што ў гэтай справе мусіць быць вызначаны адзіны падыход.

Перадусім укладальніку (або калектыву ўкладальнікаў) трэба пэўна вызначыць характар слоўніка паводле яго прызначэння — ці для школьнікаў, ці для ВНУ, ці для спецыялістаў у нейкай галіне. Гэта важна адзначыць, бо залішне шырокі ахоп масіву тэрміналагічнае лексікі тоіць у сабе небяспеку расцягвання працы на няпэўна доўгі час.

*Першы этап* — складанне (у акрэсленым абсягу) рэестру тэрмінаў на расейскай або лацінскай ці ангельскай мовах — у залежнасці ад галіны навукі і практычнай мэтазгоднасці.

*Другі этап* працы ўкладальніка сама працаёмісты. Ён палягае ў падборы беларускіх адпаведнікаў з даўнейшай і сучаснай навуковай ды навучальнай літаратуры, галіновых выпускаў Навукова-тэрміналагічнае камісіі Інбелкульту, гістарычных і дыялектных слоўнікаў, выданняў БелСЭ і іншых крыніцаў.

Але гэтым ён не можа абмяжоўвацца, бо імклівае развіццё навукі выклікае да жыцця новыя паняцці. Да таго ж значная частка ўжыванай беларускай тэрміналогіі — гэта запазычанні і калькі з расейскае мовы, часта не вельмі ўдалыя. Таму важнай складовай часцінай гэтага этапу ёсць падбор адпаведных тэрмінаў з іншых моваў (ангельскае, французскае, нямецкае, чэшскае, польскае і інш.). Асабліва пільную ўвагу варта скіраваць на ўкраінскую і славацкую мовы, вельмі блізкія паводле духу і ладу да беларускай.

*Трэці этап* — творчы: на падставе сабранага матэрыялу выбіраюць найбольш прыдатны з існоўных беларускіх адпаведнікаў ці агульнапрыняты інтэрнацыянальны тэрмін або робяць кальку з іншых моваў ці прапануюць наватвор. Пры гэтым побач з выбраным тэрмінам падаюць і іншыя беларускія сінонімы-адпаведнікі (калі яны ёсць), а таксама пазначаюць, чым з'яўляецца прапанаваны тэрмін (наватвор, калька з якой мовы і г. д.).

Падрыхтаваны гэтак машынапісны тэкст перадаюць у групу навуковых кансультантаў. У належным выглядзе захоўваюць і рабочыя матэрыялы, з якімі кансультант пры патрэбе мог бы азнаёміцца.

Нагадваем, што каардынатарам у гэтай справе з'яўляецца намеснік старшыні Тэрміналагічнае камісіі Алесь Гуркоў, якому можна затэлефанаваць 34-42-78 (у Менску) або напісаць на адрас: 220100, г. Менск, вул. Горкага, д. 143, кв. 65.

## *Падаем спіс літаратуры, якая можа прыдацца Вам у працы:*


БЕЛАРУСКАЯ НАВУКОВАЯ ТЭРМІНАЛЕГІЯ. Вып. 1. Элемэнтарная матэматыка: (Арыфметыка, алгебра, геамэтрыя, трыганамэтрыя, асновы аналітычнае геамэтрыі і вышэйшага аналізу). Менск: Выданьне Інстытуту беларускае культуры, 1922. (Далей дзеля эканоміі месца падаем толькі нумарацыю ды найменне выпуску і год выдання).

Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. 1923.

Вып. 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назовы нябесных целаў. 1923.

Вып. 4. Тэрміналёгія лёгікі і псыхалёгіі. 1923.

Вып. 5. Геалёгія, мінералёгія, крышталяграфія. 1924.

Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная. 1924.

Вып. 7. Музычныя тэрміны. 1926.

Вып. 8. Слоўнік лясных тэрмінаў. 1926.

Вып. 9. Анатамічныя назовы. Касьцяведаньне. Вязаведаньне. 1926.

Вып. 10. Тэрміналёгія права. 1926.

Вып. 11. Грамадазнаўства. 1927.

Вып. 12. Назовы жывёлаў. 1927.

Вып. 13. Анатамічныя назовы. Ч. II. 1927.

Вып. 14. Слоўнік матэматычнае тэрміналёгіі. 1927.

Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычны. 1927.

Вып. 16. Слоўнік глебазнаўчае тэрміналёгіі. 1927.

Вып. 17. Слоўнік бухгальтэрскае тэрміналёгіі. 1927.

Вып. 18. Слоўнік хэмічнае тэрміналёгіі. Ч. I. Агульная хэмія. 1928.

Вып. 19. Слоўнік сельскагаспадарчае тэрміналёгіі. 1928.

Вып. 20. Анатамічныя назовы. 1929.

Вып. 21. Слоўнік фізычнае тэрміналёгіі. 1930.

Вып. 23. Слоўнік пэдагагічных дысцыплін. 1930.

Вып. 24. Слоўнік тэрміналёгіі агульнае расьлінагадоўлі. 1930.

Дуж-Душэўскі К., Ластоўскі В. Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў. Коўна: Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве, 1923.

Ластоўскі В. Расійска-Крыўскі (Беларускі) слоўнік. Коўна, 1924.

Байкоў М., Бараноўскі А. Практычны беларускі вайсковы слоўнік. Ч. I (расійска-беларуская). Менск, 1927.

Некрашэвіч С., Байкоў М. Расійска-беларускі слоўнік. Менск: Бел. Дзярж. Выд-ва, 1928.

Слоўнік сельскагаспадарчае тэрміналёгіі ў ліку 1674 тэрмінаў. Менск: Выданьне Беларускае Акадэміі Навук, 1929.

Слоўнік хэмічнае тэрміналёгіі (агульная хэмія) у ліку 2552 тэрмінаў. Менск: Выданьне Беларускае Акадэміі Навук, 1929.

Сцяцко П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі. Мінск: Навука і тэхніка, 1977.

Восьмиязычный сельскохозяйственный словарь: Русский, болгарский, чешский, польский, венгерский, румынский, немецкий, английский. М.: Колос, Б.г.

Гребенщиков О. С. Геоботанический словарь: Русско-англо-немецко-французский. М.: Наука, 1965.

Дьякова Г. А. Русско-англо-немецко-французский фитопатологический словарь-справочник. М.: Наука, 1969.

Сборник терминов по классической механике на 5 языках (русский, немецкий, английский, польский): Теоретическая механика. Сопротивление материалов. Варшава: Выдавництво науково-тэхничнэ, 1965.

Русско-словацкий и словацко-русский политехнический словарь. М.: Русский язык; Братислава: Альфа, 1984.

Російсько-український математичний словник. Харків: Основа, 1990.

Російсько-український фізичний словник. Харків: Основа, 1990

Російсько-український хімічний словник. Харків: Основа, 1990


*Апошнія тры выданні можна яшчэ набыць, паслаўшы заказ на адрас: 310078, м. Харків, вул. Петровського, 6/8, книжковий магазин № 8 «Вища школа».*

Рэдакцыя дасылае папярэднія нумары «Нашага слова» накладной платаю. Той, хто жадае мець бюлетэнь, няхай паведамляе нам свой адрас. Кошт аднаго нумару — 20 капеек.

Паважаныя чытачы. Рэдакцыю «Нашага слова» цікавяць вашыя погляды на змястоўнасць бюлетэня. Заўвагі, прапановы, парады дасылайце на адрас «Нашага слова».






Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000 паасобнікаў. Заказ 2182. Індэкс 74975.